# ZMROK

## ЧАСОПІС АБ СЛАВЯНСКАЙ ЭКСТРЭМАЛЬНАЙ МУЗЫЦЫ
## ЖУРНАЛ О СЛАВЯНСКОЙ ЭКСТРЕМАЛЬНОЙ МУЗЫКЕ



### У ГЭТЫМ НУМАРЫ:

Ashen Light, Cruel Suffering, Raventhrone, Verminous Mind, Камаедзіца

### А ТАКСАМА РАЗЬДЗЕЛЫ:

Крыўская дэманалёгія, Памяць (Memorium)

**Вітаю Вас, Славяне...** Гэта першы спробны нумар незалежнага андэграунд часопіса на роднай мове аб славянскай экскрэмальнай музыцы. Нумар выдадзены ў сьвет у 2010 годзе ў колькасьці 20 экзэмпляраў.

**Аўтары:** Вадзімір Цемраслаў, Уладзімір Ліхаслаў, Павал Цермашал.

**Zmrok №1 (2010)**

# ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ:

**Рэдакцыя нашага часопісу заклікае вас:**

Калі ў вас ёсьць думкі, крэатыўныя ідэі, якія як-небудзь зьвязаны зь ідэяй часопісу, і вы жадалі б, каб ваш матэрыял быў надрукаваны, пішыце на нашу электронную скрыню: **zmrok.magazine@gmail.com**, альбо на фізічны адрас: **225432, Берасьцейская вобласьць, г. Ганцавічы, вул. Будаўнікоў, буд. 27/2**. Чакаем...

# РЭДАКЦЫЯ:

**Уладзімір Ліхабор**



**Вадзімір Цемраслаў**



**Павал Смутак**



# Ashen Light



**Zmrok: Привет, Алекс! Ты говорил о так называемой "трилогии", которая, как я понял, состоит из следующих альбомов: "Бог мертв - Смерть Бог!", "Философия самоуничтожения" и "Реальная жизнь - жизнь здесь и сейчас!". В чем ее суть, идея!? Что вы хотели преподнести слушателям в каждом альбоме!? Это трилогия имеет общую идею, или каждая часть несет в себе что-то свое!?**

*Алекс - Начиная работу над материалом к альбому "Бог мертв - Смерть Бог!", я и не предполагал что это только начало. Я лишь хотел объединить этой работой всё, что я делал до этого. На то время у меня скопилось много различного материала разных лет – нереализованных идей, много музыки и текстов. Особенно тщательно подбирались текста. В них мы попытались затронуть темы религии и философии как для отдельно взятой личности, так и для всего общества. Но спустя некоторое время было решено продолжить работу и через небольшой промежуток времени мы записали альбом "Философия самоуничтожения". Нам пришло много писем с просьбой написать названия песен. Но этот альбом состоит всего из одной песни. На CD она просто «порезана» на части, чтобы было можно послушать с любого момента. В этой работе мы взяли мысли и переживания, самопознание и самоуничтожение этим самопознанием отдельного человека. И последней жирной точкой стал альбом "Реальная жизнь - жизнь здесь и сейчас!". Самопознание и саморазрушение (самоуничтожение) достигло своего предела. Человек «изучил» себя, общество и остался непонятым этим обществом. Для остальных людей он не такой как все: враг, сумасшедший и единственное что ему остается – это «раствориться в бесконечной вселенной».*

**Zmrok: От кого исходит главная идеология альбомов группы на разных этапах вашего творчества!?**

*Алекс - В основном от меня.*

**Zmrok: Как известно, со времен первых альбомов, по нынешнее время, у вас часто менялся состав. Вот интересно, поддерживаете ли вы с бывшими участниками связь!? Может кто-то из них сейчас помогает вам при записи нового альбома!? Кстати, я слышал, что Отец Сергий помогал вам с лирикой альбома "Бог мертв - Смерть Бог"! Он помогает вам и дальше?**

*Алекс - Я общаюсь практически со всеми бывшими участниками группы. Сейчас с составом проблем нет. Мы все взрослые люди, которые отлично знают что, и как надо делать. В случае каких либо проблем, мы легко находим компромиссы. Часто приходят вопросы – вот вас трое, возьмите клавишника или клавишницу, свободного вокалиста или еще одного гитариста – не надо, у нас все хорошо, а на концертах так вообще лучше всех!*

**Zmrok: Известно, что вы участвуете в pagan-black проекте "Изморозь". В чем проявляется это "участие"?**
*Алекс - Сначала меня попросили записать партии гитар и клавиш к дебютному альбому как сессионного музыканта. Потом мы записали второй альбом, где я написал уже часть музыки. Изначально проект был серьезным, теперь он несерьезно серьезен, или серьезно несерьезен – это уже вам решать. Другими словами, видя что твориться с pagan стиле, где сейчас не играет только разве что ленивый или безрукий, мы решили «открыть им глаза». На втором и третьем альбоме мы славно повесились! Я думаю что Бельф более детально расскажет вам об этом проекте.*

**Zmrok: Последний ваш приезд к нам в Беларусь... Жаль, я там не был! Ну как вам вообще!? Понравилось у нас? Как вам публика?**
*Алекс - Очень понравилось! Хорошая организация (организаторам огромный приветище!), офигенно бесбашенные и «бурлящее–кипящее–оруще-сумасшедные» слушатели! Это было просто (у слова такого нет чтобы это всё выразить!) Клуб и сцена была правда маленькая, да и вытяжки не было – через пять минут мы словно в адской бане! Вот что мне еще очень запомнилось – практически при отсутствии сцены, нам никто не мешал играть: не совал руки и по возможности старались держать небольшую, но всё же дистанцию. Это хорошо видно на DVD, куда вошло это выступление. Надеюсь что нас вскоре снова позовут к вам!*

**Zmrok: Планируется ли создание клипов вообще? (Возможно, эту затею вы считаете коммерческой, но все же!) Если да, то на какие творения?**
*Алекс - Мы каждый раз записывая альбом, планируем снять клип. Но по различным причинам нам этого не удается. Вот и на новый альбом мы хотим снять клип, а возможно даже и два. Не могу заявлять это с полной уверенностью, т.к. неизвестно что нас ждет завтра.*

**Zmrok: Окей, расскажи, пожалуйста, о ваших планах на будущее. Может готовится новый альбом!?**
*Алекс - В настоящее время мы работаем над новым альбомом "Кровь Апокалипсиса" - там много жестоких, мощных риффов. Весь материал пропитан болью и страхом - очень сильно заморочились над звуком, очень тщательно записывали инструменты и я думаю что этот материал всех "порвет"!*

**Zmrok: И напоследок, пару слов о "belorussian metal")... Может какие группы даже знаете? Слушали их? Если да, то, выскажи свое мнение...**
*Алекс - Я не очень много знаю белорусских групп, у меня просто катастрофически не хватает времени – семья, работа, концерты, репетиции, запись и т.д. Перечислю лишь те, что слышал либо на концертах, либо на записях или интернете: Id Vision, Zapoveth, Posthumous Blasphemer. Очень необычная музыка у Id Vision – мы выступали вместе с ними в Питере. Ну и конечно Posthumous Blasphemer – ребята просто молодцы! Жестко, брутально, технично!*

**Zmrok: С уважением, редакция slavonic extremal music magazine "Zmrok"...**

***2009, Вадзімір Цемраслаў***

# *Raventhrone*




**Zmrok: Вітаю, сябры! Як справы!?**
*CH: - Вітаю.*

**Zmrok: Адразу пяройдзем да вашага апошняга альбома "Тенью сквозь Смерть". Як ствараўся альбом? З якімі цяжкасьцямі вам прыйшлося сутыкнуцца? Ці задаволены вы матэр'ялам?**
*CH: - Альбом ствараўся даволі доўгі час, амаль 2 гады... Гэта - сваеасаблівая грань паміж старым Raven Throne і Raven Throne сучасным... Не ведаю як для слухачоў, але для нас гэты альбом - вельмі разнастайны... Мабыць тут - перакрыжаванне самых розных нашых музычных поглядаў і думак, эвалюцыя нашай творчасці з моманту існавання і да апошняга часу... На самай справе цяжка штосьці казаць... Гэта наша бачанне нас саміх і нашага светаўспрымання... У кожнага свая Цемра... На сённяшні дзень наша стаўленне да "Тенью сквозь Смерть" - безумоўна крытычнае.  Напрыканцы зімы мы запісалі абсалютна новы матэрыял, які  больш дакладна адлюстроўвае наш сучасны стан... Гэта - бясконцае кола...*

**Zmrok: Вядома, што апошні альбом запісваўся на лэйбле Gardarika Musikk... Але ж сам лэйбл не вельмі вядомы! Раскажыце, калі ласка падрабязней пра яго...**
*CH: - Апошні альбом выдаваўся на Gardarika Musikk, а запісваўся ён у нашай уласнай студыі, дзе мы звыклі працаваць ужо шмат гадоў... Наконт лэйбла - мы вельмі задаволены яго працай і прафесійным узроўнем...  Каб набыць больш інфармацыі, раю звярнуцца да афіцыйнай старонкі лэйбла.*

**Ваша творчасьць - якія гурты на вас паўплывалі!? Ці вы спрабуеце грацць штосьці "ні на што не падобнае"?! Хто піша тэксты, музыку? Што пішацца спачатку: тэксты ці музыка?**
*CH: - Цікавае пытанне...  Што датычыцца творчасці, мае асабістыя інспірацыі - гэта Прырода і Зіма асабліва... Гэтага дастаткова. Калі казаць аб канкрэтных гуртах - гэта велічэзны спектр музыкі, але ці наўрад гэта можна лічыць уплывам. Хутчэй за ўсё яны паказалі шлях. Гэта, безумоўна, геніі Burzum, Gorgoroth... Увогуле ўся нарвежская класічная школа.  Мне здаецца, што зараз асноўны наш уплыў - гэта наш унутраны Сусвет...*
*Словы пішу я, музыку стварае ўвесь гурт. Што спачатку?  Усё асобна...*

**Zmrok: Так... Пачакайце! Амаль ніхто не ведае вашай біяграфіі!!! Раскажыце, калі ласка, як утварыўся ваш гурт!? (Спецыяльна для нашага часопіса...)**
*CH:- Гурт створаны ў 2004 г. у Полацку. На сённяшні момант з арыгінальнага складу застаўся толькі адзін удзельнік. Гурт зрабіў наступныя запісы: "Великая Тень Чернобога"*

*(гэты дэма-запіс ніколі не выдаваўся), "Сквозь Пепел Столетий На Зов Твой" (быў выдадзены маскоўскім лэйблам Front Line Prods), "Знак Огня" (таксама не выдаваўся), "Тенью Сквозь Смерть" (быў выдадзены ў лістападзе 2008 г. лэйблам Gardarika).*
*Як мне здаецца, біяграфіі на некалькі старонак з пералікам ўсіх магчымых падрабязнасцей - справа, безумоўна, карысная, але вельмі марудная для чытання.*

**Zmrok: Можа хтосьці з вас грае у якіх-небудзь сайд-праектах (пажадана б назовы гэтых гуртоў, калі яны ёсьць), ці ўсе занятыя толькі ў Raven Throne?!**
*CH:- Мне вядомы толькі one man project Cyber Zone - вельмі цікавая і змрочная электронная музыка. Усім раю паслухаць.*

**Zmrok: Усіх клапоціць зараз паўсюдная "камерцыя"... Некаторыя, магчыма, лічаць што і вы камерцыйны праект - запісваецеся на замежным лэйбле, даволі чысты гук для блэк-металу, ну і г.д... Што адкажаце на гэта!? Ды й увогуле, вашыя думкі наконт камерцыі...**
*CH:- Мусіць "некаторыя" не з'яўляюцца музыкамі... Вось і ёсць мой адказ! Можна таксама ўспомніць займальнае пытанне "true альбо не true"... І хто, цікава, вызначае бруднасць гуку? Гэта настолькі пацешна і настолькі далёка ад самой музыкі, што сур'ёзна над гэтымі пытаннямі я ніколі не разважаў... Калі мне не падабаецца што-небудзь у музычным плане альбо ў музычнай атмасферы, то абсалютна не важна, з'яўляецца гэты гурт "некамерцыйным" ці не.*

**Zmrok: Некалькі слоў, калі ласка, наконт айчыннага блэк-металу - перспектывы, яго становішча на дадзены момант...**
*CH:- Безумоўна ёсць таленавітыя гурты. Перспектывы? Мне здаецца, што гэта ўвогуле не важна... BM - гэта, па-першае, самадастатковая культура і філасофія. Толькі час пакажа...*
*W: - Я лічу, што на сучасным этапе BM у нашай краіне застаецца андэграундным музычным накірункам. Што датычыцца развіцця, то мяне гэта асоба не хвалюе... Варта сказаць, што пакуль у Беларусі з'яўляюцца новыя группы - BM развіваецца. Мы звязаныя адной ідэяй, нам падабаецца гэта музыка і мы будзем працягваць гэтым займацца...*

**Zmrok: Вашыя канцэрты... Мне пакуль што не давялося на іх пабываць, але ж спадзяюся на лепшае:) Якія самыя непрыемныя/самыя прыемныя моманты здараліся?**
*CH:- Самае непрыемнае - гэта недасканалая арганізацыя і адсутнасць якіх-небудзь дробязяў накшталт манітораў )) Увогуле, праблемы тэхнічнага характару - самае непрыемнае што здаралася... А прыемна, калі сустракаеш людзей блізкіх табе думкамі і поглядамі... Аднадумцаў.*

**Zmrok: І напрыканцы нашай размовы, некалькі словаў нашым металерам і чытачам...**
*CH:- Заставайцеся адданымі сваім ідэалам... Дзякуй за цікавыя пытанні. Жадаю вашаму часопісу быць сапраўдным беларускім metal-выданнем.*
*Дзякуй за прыемную размову;)*

***2009 Цемраслаў, Ліхабор.***

# Verminous Mind




***На вопросы отвечает гитарист и идейный вдохновитель VERMINOUS MIND - РОМАН АЛЕКСЕЕВ. (Далее: РА, прим. Ред.).***

**Zmrok: Здарова, братья по тяжмету! Пишет вам редакция журнала Zmrok малотиражный андеграунд-журнал о славянской экстремальной музыке)...**
*РА: Привет, Zmrok! Спасибо за внимание к нашему творчеству и я с большим удовольствием отвечу на вопросы! Поехали!*

**Zmrok: Как сейчас обстоят ваши дела!? Чем сейчас занимаетесь? Сейшены и концерты!? Толпы фанатов не дают вам проходу?=)**
*РА: Ну, дела обстоят самым обычным образом! Концерты и сейшены проходят редко (лето же) и мы не отчаиваемся, но если мы "разрушаем сцену" - недовольных нет! Дела обычные - репетиции и подготовка нового материала! С друзьями-фэнами общаемся в основном по нету, но и там они нам продыху не дают и мы стараемся отвечать на все их вопросы.*

**Zmrok: Т.к. еще не улеглись страсти по новому альбому, хотелось бы задать и пару вопросов по этому "изделию мясокомбината":**

- **Как вам сотрудничество с лейблом, который, если я не ошибаюсь, никогда не работал с Brutal Death'ом?!**
- **Полностью ли вы довольны этим альбомом!? Были ли разногласия среди участников?!**
- **Как вы относитесь к критике своих альбомов (в частности, последнего)?! Какие отзывы вы уже слышали?**

*СН: Здесь всё просто! IROND - единственный лэйбл, который обратил внимание на наше творчество, все остальные "значки" просто на просто отказали! Да ещё этот долбанный кризис! Главное, что альбом увидел свет!*
*Да! Альбомом мы довольны! Разногласий особых небыло, но и без них не обошлось, как и должно быть в творческом коллективе. И конечный результат привёл всех к общему согласию - все довольны!*
*Да нормально относимся, но хамству и глупости даём жёсткий отпор! В основном все отзывы хорошие, но, конечно, без недовольства некоторых (их еденицы и это - хорошо) не обошлось - всем не угодишь! Зайдите к нам на http://vkontakte.ru/club258896 там есть ссылки и вы всё сами можете прочитать и сделать свои выводы. Журнал Dark City №50 дал хорошую оценку. Недовольны остались лишь горстка "знатоков Brutal Death" да Darkside.ru, но им нас не сломить!!!*

**Zmrok: Возможно, благодаря именно "Символу вечной погибели" ваша концертная деятельность начала активно развиваться... Как проходят концерты?! Круто, небось!=) Были ли какие-нибудь неприятные/приятные моменты?! Надеюсь, вы приедете и к нам, в Минск!?;)**
*CH: Ну, я бы не сказал про активные выступления, если честно в основном только разговоры, а серьёзных предложений не было. Но если проходят - клуб трещит и разваливается! Ха-ха! В Минск?! Да с удовольствием! Организовывайте - приглашайте - приедем!!! Моменты на концертах в основном приятные или смешные. Как-то выступаем в Нижнем Новгороде и после угарного выступления пили пиво тут к нам подходят подвыпившие фэны и давай засыпать нас вопросами. Ну я тут же стал отвечать и где-то через 2 минуты они меня останавливают и спрашивают: " А какое ты имеешь отношение к VERMINOUS MIND?" Ха-ха! Мы расхохотались, а они не понимают! Потому что не заметить меня на сцене просто невозможно! Или один папарацци прыгнул на сцену причём в горизонтальном положении, упал, вырубил мне дисторшн, сбил микрофон, тот упал в зал и его украли. И такие доброжелатели есть. Нас часто называют Русскими Каннибалами и этот ярлык теперь постоянно с нами. И после очередного выступления к нам подошла девушка и сказала: "Где они у вас тут Каннибалов нашли? Вы - это вы VERMINOUS MIND!" Для нас эта была самая высшая оценка!*

**Zmrok: Почему именно "олдскульный дэз"?! Почему не "мелодик", который сейчас так моден и за милую душу воспринимается молодежью?!=) Кстати, как вы к нему относитесь?**
*CH: Вообще название нашему стилю дали наши фэны. Сами мы называем его так: - понятный, техничный death metal, а олдскул, не олдскул это пусть решают слушатель и критики! Потом слушая нашу музыку можно понять, что жёсткость наших композиций приправлена в меру: мелодичностью, понятливостью, техничностью. Мы взяли золотую середину среди выше перечисленного. И смотря, что ты имеешь в виду - мелодик дез метал или MDM? И того и другого я наслушался вдоволь! Здесь я выражу лишь своё мнение: С тех пор как появился Children Of Bodom на их фоне стали появляться однотипные команды, которые просто переигрывали последовательность натурального минора - примитивный мелодизм, а меня это напрягает, тоже самое могу сказать про MDM и альтернативу - мегатонная похожесть друг на друга! Но это ни в коей мере не показывает моё отношение именно мелодик дез! Хорошие команды есть! Мне понравилось творчество нашей российской команды Scream In Darkness, а они именно в таком стиле его и создают. Со временем я перестал делить музыку на стили, для меня есть только моя музыка и не моя (в смысле то, что нравится и не нравится).*

**Zmrok: Вот, интересно, во что верят и каких взглядов придерживаются участники группы?! Культ "хорошо прожаренного мяса, кишок, расчлененки" и т.л.?!!=)**
*CH: Мне уже приходилось отвечать на подобный вопрос. На коленях в церкви не стою, но и не приношу кровавых жертвоприношений. Я верю, что есть некий вселенский разум и что всё, что происходит в жизни не просто так. Если человек создан по образу и подобию божьему – то каждый человек Бог своей вселенной, сатана тоже создание божье, так что это кому-то надо, и было предусмотрено ещё тогда. И если сатана – князь мира сего – то мы уже в аду!*
*Каждая религия предусматривает разрушение – конец света и т.д., постоянное раболепство. Сегодняшнее время показывает, что политика, религия, спорт, искусство называются одним словом – шоу-бизнес! Делай вывод! "Для человека бог – это его личность, личность делает человека ЧЕЛОВЕКОМ, человек - БОГ!" - вот, во что я верю!!! Это ещё сказал греческий философ Гераклит.*

**Zmrok: Наверняка, кто-то из вас уже женат... Если да, то как они относятся к вашей музыке, и слышали ли они ее?**
*CH: Семейные люди только я и Владимир Шашков (вокал). Мой сын Денис слушает Rammstein, а ему 8 лет и, конечно же, death metal для него тяжело. Когда я включаю свою музыку он просит меня сделать потише. Ха-ха! Жена дез-метал не любит, но она за меня рада искренне, что у меня есть своё любимое дело и там окружают меня друзья и единомышленники. За Владимира говорить не буду, но у него там тоже нормально на этой почве.*

**Zmrok: А вот вам каверзный вопрос: если кто-нибудь из ваших детей будет слушать попсу/эмокор/рэп - то ваша реакция...**
*CH: Принуждать в выборе музыки не буду! Но своё мнение обязательно выскажу! Мне недавно жена подарила MP3 плеер и AKG-ешные наушники, чтобы я не "убивал" их слух своими колонками, ха-ха! И мой сын попросил меня послушать (а там у меня гремел Decapitated), после чего он сказал - "Здорово!" и я отнимал у него минут 15 всё это дело, но это меня жутко порадовало!*

**Zmrok: У нас в Беларуси тоже был брутал дэз! Легендарный, культовый Exhumator из Минска, может слышали о таких?!**
*CH: Да! Про  Exhumator из Минска я слышал не раз, даже в самом начале 90х читал в газете "Zaraza", по моему, честно слушал, но уже не помню - давно дело было. Они, по-моему, даже с Каннибалами выступали и потом трагически распались. Вечная Слава  Exhumator!!!*

**Zmrok: Ну и напоследок, расскажите о ваших планах на будущее!? Когда планируется выход следующего альбома?! Каким он будет, каких перемен нам ждать от VM?!**
*CH: Хочется многое сделать: альбомов, концертов, клипов.. да так, чтобы надолго запомнили! На счёт выхода следующего альбома пока загадывать не будем, всё завит от таких факторов как: финансы, готовность материала, время и т.д., но он будет!!! Про перемены - всё зависит от настроения - на то и творческие люди! Ждите!!!*

**Zmrok: Спасибо большое за классное интервью! Желаем вам процветания и… Никогда не отступать от своих идей!**
*Ещё раз большое спасибо за внимание к нашему творчеству! Спасибо журналу "Zmrok" и нашим друзьям в Белоруссии! Журналу "Zmrok" дальнейшего процветания и свежих идей! Читателям журнала и любителям тяжёлого метала новых открытий!!! DEATH METAL - ВЕЧНАЯ СЛАВА!!!*

***2009, Цемраслаў, Ліхабор***

# *Камаедзіца*




***На пытаньні інтэрвью адказвае Luty (спевы, народныя музычныя інструменты).***

**Zmrok: Чаму аб вас зараз нічога не чутна!? Дзе вы падзеліся?**
*Luty: З апошніх навін гурта КАМАЕДЗІЦА: разам з польскім гуртом OCTOBER 15 (Olaf / ex-HONOR, BATTLEFIELD, WARHEAD) распачалі запіс сумеснай песні для альбома OCTOBER 15, прысвечанага вязню – польскаму герою правага руху Янушу Валюсу (Janusz Walus), якога пасадзілі за забойства камуніста з "гра". Таксама прымаем удзел у зборніку кавераў на песні гурта ТЕМНОЗОРЬ (беларускамоўны кавер быў запісаны ў 2007 годзе на песню «White Thunder Roars»). Прымаем удзел у зборніку кавераў на песні гурта APRAXIA. Прымаем удзел і ў кампіляцыі «Support P.O.W. Worldwide» double CD / The X-DAY RECORDS.*

**Zmrok: Як вы зараз пажываеце? Ці будуць яшчэ альбомы для сумуючых па крывійскаму пэйгану слухачоў?!**
*Luty: З канца ліпеня 2009 года распачалі запіс новага трэцяга поўнафарматнага альбома.*

**Zmrok: Наконт другога альбома... У параўнаньні з альбомам «Дзеці Лесу» бачна вялікая розніца: стала значна меньш металу, затое дадалося больш фолку... Адным гэта спадабалася, другім – не. Чаму вы вырашылі аддаць перавагу народным матывам, але ж не брутальнасьці?!**
*Luty: Творчасць гурта КАМАЕДЗІЦА не для крытыкаў і аналізу.*

**Zmrok: На вашым сайце да стылю, у якім вы граеце, дадаўся суфікс «sXe»... Чаму такія зьмены!? Вось мне, напрыклад, вядома, што Straight Edge таксама ўключае ў сябе пагарду да нацыянал-сацыялістычных ідэй! Але ж ваш стыль уключае ў сябе яшчэ й суфікс NS! Растлумачце, калі ласка...**
*Luty: Нашы NS і sXe не адносяцца да агульнапрызнанага. Дастаткова было сказана ў шматлікіх артыкулах, якія я напісаў. Усё гэта магчыма знайсці на нашым афіцыйным сайце.*

**Zmrok: Ці ўсе ўдзельнікі гурта КАМАЕДЗІЦА раднаверы!? І чаму менавіта Pagan Metal?!**
*Luty: У гурце зараз два чалавека. Мы язычнікі. Але ні з астатнімі язычнікамі, ні, тым больш, з раднаверамі не маем абсалютна нічога агульнага.*

**Zmrok: Як вы ставіцеся да скандынаўскай міфалёгіі?**
*Luty: Ставімся добра. Як да старажытнай спадчыны любой нацыі альбо расы.*

**Zmrok: Што вы скажаце ў бок хрысціян?! Некалькі слоў.**
*Luty: На шляху аднаго стрыжня наш светапогляд накіраваны ў новыя гарызонты. Калі браць хрысціянства, як чыстыя ад атрутных інтэрпрэтацый веды, заснаваныя на касмічна-гістарычным, тады і нас можна назваць хрысціянамі.*

**Zmrok: Як вы лічыце, чаму нашыя продкі здрадзілі нашым крывійскім багам!?**
*Luty: Нашы Продкі, захаваўшыся ў душах, што пакінулі тыя свае мінулыя целы, жывуць намі. Спытай у сябе самога. Твая душа – душа таго, хто "здрадзіў крывійскім багам".*

**Zmrok: Як у вас зараз ідуць справы з канцэртнай дзейнасьцю?! Калі быў апошні канцэрт? Якія ўражаньні ад яго?**
*Luty: Апошні канцэрт гурта КАМАЕДЗІЦА адбыўся напачатку 2007 года ў Санкт-Пецярбургу. Канцэртаў пакуль не даем.*

**Zmrok: Ну і напрыканцы хацелася, каб вы сказалі некалькі слоў нашым металерам...**
*Luty: Больш бухалава, нікаціну, наркаты, тусовак.*

**Дзякуй за інтэрв'ю... Поспехаў вам!**
Дзякуй.

**КАМАЕДЗІЦА**
(Minsk / Belarus)
sXe-Pagan-NS

www.kamaedzitca.com

***2009, Цемраслаў***

# ПАМЯЦЬ АБ...

*Колькі часу прайшло, але ж музыка гэтых гуртоў нават зараз грае на нашых касетніках/кампутарах/плэерах. Гэты разьдзел будзе прысьвечаны музыкам гуртоў, якія ўжо не існуюць, але памяць аб іх ўсё ж павінна заставацца! У кожным нумары мы будзем нагадваць вам аб адным гурце, альбо удзельніку гурта. У гэтым нумары мы вырашылі расказаць вам аб такім цудоўным гурце, як **Cruel Suffering (Funeral Doom Metal)** – 10 лютага 2008 года памёр заснавальнік, вакаліст, ды ідэёлаг гурта: Сяргей Башкіраў.*

## Cruel Suffering



Расейскі гурт з разраду найглыбейшага андэграунду. Інфы аб ім няма зусім, і некаторыя нават жартуюць, што "гэта не гурт, а прыгожая легенда". Калі быць больш дакладным, то гэта праект музыкаў Saints Everlasting Rest, якія за ўсё сваё існаваньне далі ўсяго каля трох канцэртаў і якія пакінулі ў якасьці доказу аб сваім матэрыяльным існаваньні рэпетыцыйны запіс трох песень, якія датуюцца 99-м годам. Калі каманда была заснаваная і скончыла сваё існаваньне невядома. 10 лютага 2008 гады ва *ўзросьце* 37 гадоў памёр адзін з заснавальнікаў гурта - Сяргей "*Фьюнерал*" *Башкіраў*.

Што датычыцца творчасьці каманды, то можна з упэўненасьцю казаць, што гэта амаль што не самы лепшы помнік пахавальнага мастацтва, якім мы можам ганарыцца. Тры трэкі, прадстаўленыя на дэмцы, уяўляюць сабой неабдымны боль, холад, ды нуду, якая ўвасобілася ў працяглых сола партыях гітары і медытатыўных дыялогах *басухі* і ўдарных. Асабліва мяне ўразіў трэк пад назовам "III". Тыя, хто слухаў дадзены рэліз кажуць што вельмі часта прыходзяць на розум асацыяцыі з Worship (не меней легендарны фьюнерал-гурт з Германіі, прым. аўтара), а з гістарычнага пункту гледжаньня гэты праект *мае права звацца* расейскім *Thergothon (фінскі фьюнерал-дум)*.

Як бы тамака ні было рэч каштоўная і годная быць пачутай . Дзякуй за ўвагу.

**Удзельнікі гурту**:
Сяргей "*Фьюнерал*" *Башкіраў* - вакал, гітара
*А*. Ваўкоў - барабаншчык

***2009, Уладзімір Ліхабор***

# КРЫВІЙСКІЯ ВЕДЫ



Стрыга



Воспа

## *Жаночыя вобразы ў крыўскай дэманалёгіі*

**Багаты й разнастайны, адметны і непаўторны сьвет міфаў народа крыўскага. Богі, духі жывуць побач зь чалавекам, суправаджаюць яго на ўсім жыццёвым шляху і пасьля сьмерці. І калі зь аднымі чалавек мае добрасуседскія, нават сяброўскія адносіны, то іншыя істоты толькі і думаюць, як чалавеку нашкодзіць. Асобным пластам сярод іх можна выдзяліць стварэньні жаночага полу, аб якіх і пойдзе гутарка ў артыкуле.**

Зь маленства кожнаму з нас вядома “**Баба Яга**” ці “**Ягіня**”, гаспадыня ўсіх ведзьмаў: яна страшна, чорна, старая, раскудлачана, у яе замеж ног жалезныя таўкачы, то яна як ідзе лесам, то лес ломіць і дарогу сабе цярэбіць тымі таўкачамі Усіх ведзьмаў цётка. Злая чараўніца, якая робіць уночы розныя паскудства і пра якую гавораць, што яна “ў ступе ездіць, таўкачом паганяець, а памялом след замятаеець”. Паводле крыўскага паданьня, яна гоніць вятры і хмары вогненнаю мятлою. Яна таксама ляціць на Лысаю гару ў жалезнай ступе, паганяючы кульбаю ці таўкачом і замятаючы след памялом. Але не заўсёды лётае ў ступе. Як і іншыя падуладныя ёй ведзьмы, яна лётае таксама на мятле, качарзе, лапаце, граблях і мыліцы. Лічаць, што яна жыве ў паветры. Баба-Яга – касьцяная нага і падначаленыя ёй ведзьмы харчуюцца душамі людзей, ад чаго і робяцца паветранымі, лёгкімі, як душы. Вядома нават капішча ў старадаўніх славян, прысьвечанае Бабе Яге.

Злоснай, агіднай, старой з блізкучымі вачыма і з адным зубам, які тырчыць вонкі, малюецца ўяўленьню сялян-крывічоў цётка-Воспіца, ці проста **Воспа,** якая пырскае сваёй атрутнай слінаю ў намечаную ёю ахвяру. Мясцовыя назвы Воспы: Рабая, Рабуха, Шчарбачка, Ліхая і інш. Пра чалавека, твар якога захаваў сляды гэтае хваробы, кажуць у насьмешку, што на яго фізіяноміі чэрці гарох малацілі ці ячменныя крупы дралі.

У палях и агародах жыве **Жалезная баба**. Гэта злая нізкарослая старая з жалезнымі вялікімі грудзямі. Яна хапае жалезным крукомтых дзяцей, якія асмельваюцца заходзиць адны ў палі і агароды, каб паласавацца бобам, гарохам, макам, гародннай, кідае іх ў сваю жалезную ступку, таўчэ і есьць. Таксама Жалезная баба жыве і ў студні і уцягвае туды усіх, хто ў яе заглядае, асабліва дзяцей.

Крывічанскі народ адрозьнівае дванаццаць постацей **Трасцы** (**Ліхаманка**, **Шуня**, **Хондзя**), якіх уяўляе сабе як дванаццаць сясцёр, вельмі прыстойных і падобных між сабой маладых дзяўчат, якія паасобку выбіраюць сабе жытло ў чалавечым целе, пераходзячы па чарзе ад чалавека да чалавека і

жывучы яго сокамі. Яны ходзяць па сьвеце, клічуць людзей, і хто адгукнецца ім, у тым адна сястра адразу пасяляецца, і ён страшэнна мучаецца. Часам яны проста прыходзілі да людзей; калі той, да каго падыходзілі не ўставаў ці не гразіў им, то і ў яго ўваходзіла Ліхаманка. Таксама ўваходзілі яны ў людзей у выглядзе парушанкі або мухі, што ўпала ў малако, калі хто-небудзь еў. І калі той працягваў есьці гэтае малако, то ў яго адразу рабілася ліхаманка; калі ж ён возьме тую парушынку і кіне ў печ, то яна згарыць, а калі, уклаўшы яе ў яечнае шкарлупіньне, павесіць у коміне, то яна надзвычайна мучыцца. Такім чынам шэсьць сясцёр ужо спалены, тры дзесьці мучаюцца, а тры и цяпер блукаюць па сьвеце.

Час ад часу збіраюцца яны на сустрэчу звычайна на якой-небудзь лясной палянцы  там расказваюць пра свае справы, расказваюць планы на будучае, дзеляць між сабой нагледжаныя ахвяры. Часам зъяўляюцца яны ў сьне, прадказваючы хваробу ц зыход з яе, або таксама засьцерагаюць чалавека ад пагрозы хваробы, напрыклад, г.зв. "Трасца сьмяротная" гаворыць звычайна: "Ляшчына, не ляшчына, а я цябе насьмерць затрасу!"; іншая зноў, калі чалавек засне выпадкова на зямлі ў тым месцы, што запэцкана скацінаю, з'яўляецца чалавеку ў сьне, каб неадкладна ўстаў, а калі не паслухае, плюе на соннага і той адразу ж захворвае на трасцу. Назвы розных постацей Трасцы наступныя: 1)"Трасца сьмяротныя", якая выклікае сьмерць бяз выключэньняў; 2)"Трасца унутраная», якая паражае вантробы, у прыватнасьці, «каля сэрца нудзіць"; 3)"Трасца павярхоўная", "скура выбиваецца наверх…"; 4)"Трасца касьцяная", якую суправаджае ламата ў касьцях; 5)"Трасца пудавая", якая ўзьникае зь перапуду, 6)"Трасца лістаадзеватная", якая пануе ўвесну; 7)"Трасца лістаападная", ці восеньская, - адна зь найбольш упарартых постацей; 8)"Трасца гарохавая", якая пануе, калі гарох цьвіце; 9)"Трасца асінавая"; 10)"Трасца ядленьцавая"; 11)"Трасца агнявая" і 12)"Трасца ледавая". Апошнія чатыры назвы паходзяць ад лекаў, эфектыўных на гэтыя постаці (асіна, адловец, цяпло, холад). Ліхаманка, або цётка-Ліхаманка выходзіць зь зямлі восеньню і вясною. Асеньнія Ліхаманкі з'яўляюцца крывічу ў вяглядзе кастлявых, агідных старых баб, а веснавыя – надзвычай прыгожых, грацыёзных, але халодных стварэньняў. Веснавая бадзяецца паўсюль, пакуль не натрапіць на каго-небудзь, хто сьпіць на веснавым сонейку. Калі ёй гэта удаецца, яна падкрадаецца да соннага, цалуе яго і ўжо не расстаецца зь ім. Прачнуўшыся, ён адчувае, што спаў асабліва соладка, і толькі потым няпрошаная госьця пачынае заяўляць свае правы. Па іншым павер'ям усіх Ліхаманах існуе семдзесят сем. Праклятыя і ператвораныя ў 77 шкодных струменяў паветра дачкі цара Ірада. Сродкі супраць Ліхаманак самыя разнастайныя, а менавіта – 77 сродкаў., яшчэ да гэтага часу не вывучаных людзьмі. Калі Трасца трасе, то яе хутчэй атагнаць, чым тую, якая гняце да ломіць косьці. Калі трасца толькі гняце ды ломіць косьці, то трэ напіцца сьвежага бярозавага соку ць кіслага малака, тады яна пачне трасьці, то хутчэй можна ад яе адчапіцца. Трасцы сядзяць на асіне, таму асіна заўжды трасе сваім лістам, бо яе калоціць гэтая погань. Ліхаманку нельга лаяць, пра яе інакш не ўспамінаюць, як з прыгаворкаю: «Няхай яна здаровенькая і вясёленькая ходзіць», і нават на Дзяды клічуць на вячэру Трасцу-матухну.

**Лоймамі**, ці **Чарціхамі** у нас называюць злых духаў, толькі ў бабскай постаці. Яны знойдуцца найбольш у балоце, у лазе і страшаць бабаў, хоць часам і да мужчын прывязуюцца. У Лоймы вечна раскудлячаныя косы і наверху цыцкі вялікія вісяць, а сама страшная. Могуць выкрадаць у жанчын дзяцей, падкідваць на их месца сваіх няўклюдкаў. То як каторая ўгледзиць дзе дзіця на дарозе або на мяжы, а нат і ў хаце, як матка адыходзячы, яго адно пакіне, то яна свае прынясе, пакіне, а тое ўхопіць. Калі ў каго дзіця адменяна, то трэба ўзяць асовых дубцоў, палажыць дзіця на захадзе слонка на парозе і біць, пакуль Лойма не прыйдзе па сваё тое дзиця. Кажуць, што Чарціха, аддаючы, кажа: «Я тваё так пяленгавала, а ты маё б'еш».

Ва ўяўленьні крывічоў нейкі дух ці прывід, вялізная жахлівая істота на кароткіх лапах, абавязкова чорная, зь чалавекападобнымі формамі, ростам зь тыднёвае дзіця, з голай скураю ці пакрытая рэдкім кароткім пер'ем, часам поўсьцю, мяккая навобмацак,  завецца **Мара´й** (**Ма´ра**, **Марня´**). Калі Мара

рухаецца, ад яе зыходзяць металічныя гукі, як аддаленыя удары ў чугуны кацёл. Марня праследуе людзей, якія ўчынілі якое-небудзь злачынства. Праследуе злачынцаў і пасьля іх сьмерці: прыняўшы на сябе воблік памерлага злачынца., яна зъяўляецца ў сьне родным яго і не дае пакою да таго часу, пакуль яны не раскрыюць злачынствы нябошчыка перад народам. Марня вядома па ўсёй Крывіі. Таксама ёй прыпісваюць усе начныя душнасьці, прывіды і болі, асабліва болі галавы. Можаператварацца ва ўсялякіх зьвяроў, нават у чалавека. Мара юнакоў і дзяўчат душыць у час моцнага сну. Мучае сонных, не перапыняючы іх сну. Чапляецца ў сьне пераважна да таго чалавека, які шумна правёў час перад сном і, значыць, зь цяжкасьцю можа разабрацца ва ўраджаньнях. Мяняе свой воблік, калі паслядоўна прыстае да адной і той жа асобы. Звычыйна Мара садзіцца на грудзі ці горла соннага чалавека і пачынае душыць, прычым, перашкаджаючы чалавеку дыхаць, яна час ад часу адпускае яго, каб нацешыцца яшчэ большымі пакутамі ахвяры пасьля перадыху. Ахвяра, імкнучыся выратавацца, падымае руку, каб адагнаць Мару, але тут вёрткая Мара прытрымлівае занесеную руку, прычым ад дакрананьня мары рука млее, чым прычыняе новыя пакуты. Адзіным магутным сродкам выратаваньня з'яўляецца згадка, што ўсё гэта адбываецца ў сьне, а не на яве, пакутнік прачынаецца - і Мара зьнікае. Любіць прыставаць да маладых людзей, зь "цёпленткай крывёю". Падае на ахвяру неадчувальна і не адразу, а цішком, прычым першае яе дакрананьне нават прыемнае. Адступаецца ж Мара ад ахвяры імклiва, пакінуўшы пасьля сябе ў соннага зьнямелыя рукі ці ногі ды вялікі пот на твары і целе. Невядода, ці гінуць Мары і зь якой прычыны. Марамі таксама называюць некаторых вупыроў, што з'яўляліся ў выглядзе шкілета, труны, шыбеніцы, асмаленага пня, калоды, што тырчыць, як пень, і г.д. Такая Мара ўзьнікае неспадзявана і пaступова пасоўваецца за тым, хто ідзе, яна нічога благога не робіць, але яе прысутнасьць прыгнятае: "сэрца нача каты дзяруць, на душы ляжыць пячаль вялікім каменем".

У Наўскі вялікдзень (Радаўніца) топяць куль саломы, прыбраны за бабу, у першай за вёскай лужыне, разумеючы, што топяць саму **Марэну** – Сьмерць, якая разам з маразамі панавала ўсю зімку над зямлёй і людзьмі.

Існуе і другая багіня Сьмерці - **Паляндра**, багіня сьмерці, тое, што ў старажытных яцьвягаў была Мажанна. Паляднра, вераць крывічы, знаходзіцца ў варожых адносінах з людзьмі і таму рада бывае, калі людзічасьцей паміраюць: яна адразу ў выглядзе пачварнай жанчыны з'яўляецца ў хатах паміраючых людзей і там забірае душы, якія аддае Бабе-Яге – касьцяной назе, з якой моцна сябруе, таму ўто яны разам раз'язджаюць у адной жалезнай ступе.

Ёсьць у нас і багіня мёртвых **- Капша**. Прадстаўлена ў выглядзе задымленай, бруднай, выпацканай смалою старой самага жахлівага выгляду. Яна жыве ў трунах, і асабліва ў тых, дзе толькі пачынаюць разлагацца набошчыкі, непакоіць іх, і менавіта нябошчыкаў тых, родныя якіх не задобрылі яе, не паклалі ў труну якога-небудзь напою ці грошы. Тыя, хто па нейкай прычыне не дагодзілі ёй, стараюцца задобрыць Копшу ў дзень трызны, якую сьвяткуюць ў выглядзе Радуніцы. У гэты дзень увечары зьбіраюцца жанчыны, пераважна старыя, на магілы свах родных з харчовымі прыпасамі і раскладваюць іх на магілах. Частку з'ядаюць самі, астатняе пакідаюць Копшы. Звычайна прарываюць у галавы магілы яму і туды закопваюць гэтыя паднашэньні, а на месцы ног прабіваюць глыбокую адтуліну і кідаюць у яе некалькі манет, большай часткай медных, па колькасьці чальцоў сям'і, - што суправаджаецца рознымі прыгаворамі.

Кабеты, якія ніколі не мелі дзіцяці праз свай шэльмаўства, або якіх людзі праклялі, пасьля смерці становяцца **Начніцамі**. Начніца не дае дзяцям спаць, шчыпле іх, дакучае, а дціця ўсё плача і плача ўсю ноч. Таксама "дае сцаць з сваё грудзі, а ў яе цыцках не малако, да атрута". Дзяця хварэе, мэнчыцца, а калі не дагадваюцца як лячыць, то паміраe. Ня толькі чапляюцца да людзей. Як ноч настане, то лазяць па птушыных гнёздах, выпіваюць яйца і ядзяць птушанят.

Чараўніца, якая робіць непакой цяжарным, носіць імя **Стрыга**. Яна нават можа перамяніць дзіця, замест добрага і тоўстага падкінуць плаксівае, бледнае і худое, калі цяжарная жанчына не зьвернецца

своечасова да знахаркі. Цяжарныя дзяўчыны бачылі Стрыгу: гэта – жанчына вялізнага росу, худая, бледная, з праваленымі зялёнымі кашэчымі вачыма; не мае сталага жыхарста, ходзіць па вёсках. Па вечарах з аднаго двара пераходзіць на другі. Схапіўшы дзіця, Стрыга шматае яго так, каб маці чула яго крыкі. Каб пазбегнуць гэтага, дзяцей купаюць перад заходам сонца, пасьля чаго ваду адразу выліваюць, ні ў якім разе не пасьля заходу сонца. Часам зьнявечвае дзіця, а калі раззлуецца, то на вачах ва ўсіх разбівае яму галоўку аб камень. Можна задобрыць чараўніцу, запрасіўшы на час родаў, аказваць асаблівую павагу і часам справа наладжваецца: дзіця цэлае.

**Халерай** паўстае жанчына на каровіных нагах, якая раз’язджае на тройцы вараных коней ці ездзіць па вадзе, і надзвычай любіць нюхаць табаку. Паўстае і ў вобліку чорнай, худой, жахлівай, зь доўгімі сьветлымі валасамі і бліскучымі вачыма старой, замучанай і вельмі брыдкай, якая “зусім бы то зь імглы зьлеплена была: дзе яна пройдзе, то там зараз народ пачне ўміраць”. Раскідвае на вялізную адлегласьць зерне хваробы, вымаючы яго з невычэрпнага кошыка, і робіць гэта часьцей за ўсё вясной. Малюецца яна таксама ў выглядзе халоднай прыгажуні, якая махае з-за могільніка на сяло чырвонай ці чорнай хусьцінай, з-за чаго людзі мруць як мухі. Як хто першы захварэе на халеру, то лепш усяго пахаваць яго жыўцом, тады разам з хворым пахаваецца і Халера.

**Чума**, ці па-іншаму **Мор**, **Чорная Немач**, уяўляецца ў вобразе чорнай жанчыны, паветранай істоты, стыхіі, якая валодае вогненнымі стрэламі. Калі яна набліжаецца да прызначанай мясцовасьці, то ператвараецца ў цёмную птушку, пугача ці саву, і носіцца ў паветры, намячае сабе ахвяры. Часам ўночы, праследуючы якога-небудзь чалавека, яна кліча яго па імені і стогне, каб падарожны азірнуўся назад. Калі азірнецца – смертаносная красуня праткне яго сваёй стралою, чорная атрута разальецца ў крыві, і агідная Сьмерць занясе сваю нястомную руку з касой. Складкі белага адзеньня Чумы шырока развяваюцца і закрываюць зьзяньне месяца. Яна не церпіці ні крыку пеўня, ні сабачага брэху, таму ўсюды, дзе яна пануе, сабакі перастаюць бразаць, а петушыны сьпеў робіцца хрыплым: “У Халеру і жаба не квакне”.

**Расамахай** з’яўляецца злы дух у выглядзе жахлівага страшыдлы, палова чалавека і палова ільва. Уся пакрыта даўгой белай поўсьцю; ходзіць на задніх лапах.заўсёды жыве ў каноплях (куды дзяецца зімой – невядома) і выходзіць адтуль толькі ноччу, для пошукаў ежы. Заўважыўшы людзей, нападае на самага маладога зь іх (старых не чапае), прагрызае ў жывога чэрап, высасвае яго мозг. Падсмакаваўшыся, цела кідае.

Зразумела, што ня ўсе міфічныя вобразы прадстаўлены ў матэр’яле. Можна і далей працягваць спісак: Русалкі, Азярніцы, Малочныя Ведзьмы, ... Ўсё гэта наша, самабытнае. Нажаль, шмат было страчана, шмат зьведала ўплыў хрысьціянства і трансфарміравалася. Але і засталася нямалая спадчына, дазваляе паказаць як ўспрымалі навакольле нашыя дзяды.

***2009, Павал Цемрашал***

